# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 50 (1700) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК, 11 СНЕЖНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.




Яфрэм Яўсеевіч Сакалоў (другі справа), член ЦК КПСС, I сакратар ЦК КП Беларусі сярод дэлегацыі ЦК КПБ падчас працы „Круглага стала".

## КАБ ЛЮДЗЯМ ЖЫЛОСЯ ЛЯГЧЭЙ, І ЛЮДЗІ ЖЫЛІ Ў ДАСТАТКУ

Гэтымі словамі Георгія Сяргеевіча Астраумава, намесніка замежнага аддзела Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза можна акрэсліць накіраванасць **Першай сустрэчы „Круглага стала" сакратароў супрацоўнічаючых камітэтаў ПАРП і КПСС**, якая адбылася 21—22 лістапада 1988 г. у Беластоку. Прынялі ў ёй удзел значныя групы прадстаўнікоў ЦК ПАРП на чале са Station Станіславам Габрыельскім, членам ЦК, кіраўніком палітычна-арганізацыйнага аддзела ЦК; ЦК КПСС і ЦК КПБ узначаленая Яфрэмам Яўсеевічам Сакаловым, членам ЦК КПСС, Першым сакратаром ЦК КП Беларусі; Пасольства СССР у Польшчы з Уладзімірам Ігнатавічам Бровікавым, паслом Савецкага Саюза ў Польшчы, Рышард Пацыроўскі, саветнік Пасольства ПНР у Маскве. Самую вялікую групу ўдзельнікаў сустрэчы склалі прадстаўнікі супрацоўнічаючых ваяводстваў і абласцей Польшчы і Беларусі, а таксама Літвы, Латвіі і Эстоніі. Гэта былі кіруючыя калектывы ваяводскіх, абласных і рэспубліканскіх камітэтаў ПАРП і КП рэспублік у асноўным з першымі сакратарамі камітэтаў. Сачылі за работай спаткання Польскае тэлебачанне і радыё, ТАСС, ПАП, Інтэрпрэс, „Трыбуна люду", „Праўда", „Штандар млодых", „Камсамольская праўда", „Пшыязнь" і прадстаўнікі яшчэ дзесяткаў двух польскіх газет і часопісаў, у тым ліку і нашай „Нівы".

Адкрылі і кіравалі працай „стала" тав. тав. С. Габрыельскі і Г. С. Астраумаў.

Удзельнікі сустрэчы ўсе два дні прысвяцілі абмеркаванню найважнейшых дасягненняў, недахопаў і патрэбаў у розных формах супрацоўніцтва — ідэалагічнага, гаспадарчага, навуковага, культурнага — паміж паасобнымі ваяводствамі Польшчы з аднаго боку і абласцямі Беларусі, а таксама прыбалтыйскімі рэспублікамі СССР. Згодна сцвярджалася, што сёння, як ніколі дагэтуль, польска-савецкія суадносіны сталі блізкімі і адкрытымі. Іх ажыўленне і паскоранне — гэта вынік усебаковага і эфектнага супрацоўніцтва паміж ПАРП і КПСС, палітыкі аднаўлення і перабудовы, якая ажыццяўляецца ў нашых краінах. Выдатны ўплыў на пашырэнне і ўмацаванне польска-савецкай дружбы маюць падпісаныя ў студзені 1987 г. *„Праграма развіцця ідэалагічнага супрацоўніцтва паміж ПАРП і КПСС да 1990 г."* і *„Дэкларацыя аб супрацоўніцтве ў галіне ідэалогіі, навукі і культуры"*, а таксама візіт Генеральнага Сакратара КПСС М. С. Гарбачова ў Польшчы ў ліпені 1988 г. і падпісанне кіраўнікамі абедзвюх нашых партый М. Гарбачовым і В. Ярузельскім *„Сумеснай польска-савецкай заявы"*. Гэтыя дакументы складаюць аснову супрацоўніцтва абедзвюх краін, таксама і паміж нашымі ваяводствамі і абласцямі БССР і прыбалтыйскімі рэспублікамі СССР. Гэтае рэгіянальнае супрацоўніцтва мае ўжо багатую традыцыю і значныя дасягненні. Цяпер усе польскія ваяводствы развіваюць ажыў-

(Працяг на стар. 6)

## БЕЛАРУСКАЯ ДРУКАРНЯ

Хачу сёння сказаць аб справе, якая мае для беларусаў у Польшчы не меншае значэнне, чым Беларускі музей. Маю на думцы заснаванне Беларускай друкарні. Вядома, што БГКТ мае велізарныя цяжкасці з друкам Беларускага календара, літаратурных і навуковых зборнікаў, статута, запрашэнняў і кожнай іншай формы беларускага слова. Цяжкасці з гадамі пабольшваюцца. Які выхад з такой сітуацыі? Выхад ёсць толькі адзін — арганізацыя самастойнай, падпарадкаванай БГКТ, Беларускай друкарні. Зрэшты, такая друкарня патрэбна не толькі Галоўнаму праўленню таварыства, але і яго аддзелам, і літаратурнаму аб'яднанню „Белавежа", і „Сустрэчам", і Кафедры беларускай філалогіі, і беларускім ліцэям у Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы, і „Ніве", і ўсім пачатковым школам, у якіх выкладаецца беларуская мова. Словам, усім беларусам у Польшчы. Зрэшты, хто ведае, можа ў такой друкарні зможам рабіць паслугі і для беларусаў з-за мяжы?

Беларуская друкарня магла б рабіць паслугі для іншых устаноў з той мэтай, каб зарабіць грошы, неабходныя на беларускую дзейнасць, у тым ліку і на беларускія выданні, якія са зразумелых прычын не могуць прыносіць фінансавага даходу.

І цяпер аб справе найважнейшай. Адкуль узяць фінансавыя сродкі на Беларускую друкарню? Зразумела, што тыя сродкі, якія можам сабраць ад беларусаў у Польшчы, могуць скласці толькі нязначны працэнт капіталу, неабходнага для рэалізацыі гэтай мэты. Не скрываю, што разлічваў я на дапамогу беларусаў з Захаду. У мінулым годзе, знаходзячыся ў ЗША, я гаварыў сваім слухачам аб Беларускай друкарні. Мушу з прыемнасцю сцвердзіць, што адносіны да гэтай ідэі былі прыхільныя. У ЗША я гаварыў аб сучаснай невялікай камп'ютэрнай друкарні. Трэба сказаць, што з гэтай справы вынiклі і пэўныя непаразуменні. Знаходзячыся некалькі тыдняў таму назад у Англіі, даведаўся я ад аднаго беларуса аб тым, што беларусы з Канады пыталі яго: „Які гэта камп'ютэр хоча мець Баршчэўскі"? Беларусам з Канады і з іншых краін выяс-

(Працяг на стар. 7)




### СЯРГЕЙ І КАСТУСЬ

Душою беларускага цэнтра „Полацак“ у Кліўлендзе з'яўляюцца, несумненна, дзве асобы: Сяргэй К. і Кастусь К. Так злажыўся іх лёс, што жывуць яны самотна, зрэшты, жывуць у адным доме і вядуць супольную кухню. Усе мерапрыемствы, якія праводзяцца ў „Полацку“, маюць свой радавод і заканчэнне ў Сяргею і Кастусю. У іх лёсе многа падобнага. Абодва болей-меней з таго самага года нараджэння, абодва выводзяцца з цэнтральнай Беларусі, абодва не залажылі сем'яў, абодва характарызуюцца любоўю да роднай мовы і культуры, абодва на беларускую справу не шкадуюць ні часу, ні грошай, ні энергіі. А пры гэтым нямала ў іх і рознага. Сяргей К. многа гадоў працаваў шафёрам, а пасля рабочым на малочнай фабрыцы, якую, зрэшты, мне шэсць гадоў таму назад паказваў. Умовы працы там былі цяжкія, фабрыка гэтая ўжо абанкроцілася, а Сяргей стаўся беспрацоўным, а пасля пайшоў на ранніюю, досыць нізкую пенсію. Кастусь, наадварот, працаваў у нейкай электроннай фірме інжынерам. Цяпер працуе ў нейкай іншай фірме. Наколькі мне вядома, хаця і не ведаю дэталяў, зарабляў і зарабляе добра. Кастусь мае ў БССР двух братоў і сястру. Ездзіў да іх некалькі разоў. І яны прыязджалі да яго. Мяркуючы па здымках, і яго паездкі да родных у БССР і іх прыезды ў „Полацак“ былі вялікім святам не толькі для іх, але і для вялікай грамады беларусаў як у БССР, так і ў Кліўлендзе. Некалькі разоў у БССР да крыху далейшай сям'і ездзіў і Сяргей. Зрэшты, амаль заўсёды пры такіх нагодах заглядаў у Польшчу, да мяне ў Варшаву, да Ані Красько ў Гданьск і на Беласточчыну. Калі гаварыць аб розніцы паміж Сяргеем і Кастусём, дык трэба звярнуць увагу на тое, што Сяргей вельмі гаваркі, а Кастусь маўклівы.

Вельмі цікава выглядае ў Сяргея і Кастуся кухня. Яны, каб не важдацца з пасудай, вырашылі праблему вельмі проста. У іх кухні стаіць некалькі даволі вялікіх мяшкоў. У адным з гэтых мяшкоў сотні картонных талерак, у другім — сотні пластмасавых нажоў, вілак і лыжак, у трэцім — сотні чарачак. Усе гэтыя прылады аднаразовага ўжытку. Налажыў адзін раз на талерку, выкарыстаў адзін раз нож, відку, лыжку ці чарку — не мыеш іх пад кранам, а выкідаеш у мяшок са смеццем. Мяшка з чаркамі Сяргей і Кастусь маглі б і не трымаць, бо п'юць яны ў параўнанні з намі вельмі мала. Вось такі, значыць, у іх кухонны парадак і ў ім таксама праяўляюцца характэрныя рысы амерыканскага жыцця. Трэба сказаць, што кухня, як, зрэшты, і ўвесь дом у Кастуся і Сяргея вельмі чысты, хаця ў іх і няма жанчыны.

Хачу вярнуцца, аднак, да спраў важнейшых, да беларускага характару „Полацка“. Ва ўсім гэтым цэнтры жывуць толькі тры беларусы: Кастусь, Сяргей і пані Эва Яраховіч. Так бывае ў будні дзень. Затое ў святы прыязджаюць сюды сотні беларусаў з Кліўленда і з ваколіц. Вось тады ладзяцца тут і фэсты, і лекцыі, і даклады, і канцэрты, і нават набажэнствы, хаця царква Кірылы Тураўскага знаходзіцца ў іншым месцы. Несумненна, душою ўсіх гэтых мерапрыемстваў з'яўляюцца Сяргей і Кастусь. Вакол іх кружыцца тут, як планеты вакол сонца, увесь беларускі свет. Трэба сказаць, што беларусы тут добрыя, сардэчныя, дружныя. Да такіх належыць і Янка Р., і Яўген К., і Андрэй С., і Вацлаў Р., і Ірэна, Клаўдзя ды Юрка Каляды, і Эва Я., і дзесяткі іншых, якія любяць і роднае слова, і застольную бяседу.

Ужо некалькі гадоў спее ў галавах і сэрцах полацкіх беларусаў ідэя пабудовы вялікага Беларускага дома з залай прынамсі на 500 месцаў. Не лёгка рэалізаваць гэту ідэю. Аднак мне здаецца, што калі лёс дасць здароўе Сяргею і Кастусю, дык і гэтая нялёгкая задача будзе вырашана.

Вяртаючыся на заканчэнне ізноў да Сяргея і Кастуся, хачу сказаць, што пасля майго звароту да сабраных кліўлендскіх беларусаў у справе збору грошай на Музей, многія з сабраных грошы далі. Пасля сходу Сяргей сказаў, што ён будзе пры кожнай нагодзе напамінаць палачанам аб абавязку ўзносаў на Музей. А Кастусь, падумаўшы крыху, неяк амаль сарамліва сказаў: „А я дам на Музей 1000 долараў!“ Калі прызнацца, дык я верыў і не верыў гэтым абяцанкам. Аднак я памыліўся. І Сяргей, і Кастусь стрымалі слова. Некалькі месяцаў таму назад Сяргей Карнілович прыслаў на наш Музей 2000 долараў. У спіску ахвярадаўцаў красавалася і прозвішча Кастуся і яго ўзнос — 500 долараў! Не сумняваюся, што і другую абяцаную палову Кастусь унясе. Што для нас абазначае сума 2000 долараў, не трэба чытачам выясняць.

Вось так, чалавечая сардэчнасць і ахвярнасць не мае граніц. Як добра, што гэтая сардэчнасць і ахвярнасць называецца беларускай, і што яе носьбітамі з'яўляюцца цудоўныя людзі Кастусь і Сяргей ды, зрэшты, усе кліўлендскія беларусы.

**Алесь Барскі**

# ГАЛАСЫ З'ЕЗДА

**Станіслаў Дэмянюк, прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў,** запэўніў дэлегатаў, што МУС далей будзе фінансава дапамагаць і падтрымліваць Таварыства ў яго статутовай дзейнасці. Аднак магчымасці фінансавай дапамогі з боку дзяржавы досыць сціплыя, дык вось дзеячы БГКТ павінны падумаць аб арганізаванні гаспадарчай дзейнасці пры Таварыстве. Дагэтуль справа выглядала так, што 90 працэнтаў фінансавых сродкаў давала МУС, а 10 працэнтаў — гэта ўласныя прыходы Таварыства.

Станіслаў Дэмянюк паінфармаваў дэлегатаў, што цяпер ідзе падрыхтоўка новага законнага акту адносна грамадскіх згуртаванняў. У праекце прадугледжваецца, што фінансавая дапамога дзяржавы будзе аказвацца толькі ў тых выпадках, калі арганізацыя будзе рэалізаваць мэты па заказу дзяржавы.

Рэалізацыю ўласных мерапрыемстваў трэба будзе забяспечваць уласнымі сродкамі.

Пад канец выступлення С. Дэмянюк закрануў справу прапанаваных на З'ездзе змен у Статуце БГКТ. Сцвердзіў, што з увагі на паспешлівасць, Статутовая камісія дапусціла некалькі фармулёвак нязгодных з законам. Сённяшні З'езд павінен адбыцца паводле старога, афіцыяльна зацверджанага Статута. У тым ліку і выбары старшыні ГП БГКТ павінны праводзіцца па-старому. (Паясненне: на З'ездзе прапанавалася, каб старшыню выбіралі ўсе дэлегаты, а не, як дагэтуль, члены нававыбранага ГП).

**Яўген Вапа з Доўгага Броду,** дэлегат з Варшаўскага аддзела БГКТ крытычна паставіўся да падрыхтоўкі XI З'езда і да правіл яго правядзення. Звярнуў увагу, што з'ездавая зала кепска падрыхтавана да правядзення пасяджэння: няма мікрафона, няма столікаў, пры якіх дэлегаты маглі б весці занатоўкі, дэлегаты не атрымалі копіі праграмы З'езда, у самім пасяджэнні наглядаецца балаган. Старшыні З'езда не ўдзялілі належнай увагі прапанове адносна новых правіл выбару старшыні ГП БГКТ, так што, мабыць, у запісе прапанаваных змен у Статуце гэтая справа не будзе пастаўлена.

Звярнуў увагу дэлегатаў, што на зале няшмат моладзі, па сутнасці няма ніводнага дэлегата з Гайнаўскага ліцэя. Прыпомніў, што вучні гэтага ліцэя ўжо 5 гадоў назад пачалі збор экспанатаў для беларускага музея, але пакуль што ніхто ні з дзеячоў БГКТ, ні з Камітэта пабудовы музея імі не зацікавіўся.

Я. Вапа сцвердзіў, што сучасныя формы дзейнасці БГКТ у ніякай ступені не задавальняюць патрабаванняў моладзі. Сваё выступленне дэлегат з Варшавы закончыў пытаннем: як дзеячы БГКТ бачаць справу падключэння моладзі да дзейнасці Таварыства і што ад сябе могуць маладым запрапанаваць?

**Міхась Куптэль з Гданьска** сцвердзіў, што беларусы ў Польшчы з дня на дзень страчваюць сваю нацыянальную свядомасць. У сапраўднасці яны не маюць свае нацыянальнае базы. Справа тут не толькі ў прычынах фінансавай натуры, яна займела шырэйшы палітычны кантэкст. Улады заплюшчваюць вочы на відавочныя працэсы дэнацыяналізацыі беларускай меншасці, а калі ім на такія працэсы звяртаецца ўвага, яны выносяць аргументы, нібыта самі беларусы не хочуць падтрымліваць свае нацыянальнае свядомасці. Дэлегат накіраваў шэраг пастулатаў у адрас новых улад БГКТ, між іншым, такія: апрацаваць новыя, болей цікавыя формы дзейнасці Таварыства, стварыць навуковы інстытут адносна беларускіх праблем, здзейсніць устанаўленне двухмоўных надпісаў на Беласточчыне, намагацца стварыць беларускае прадстаўніцтва ў Сейме, арганізаваць гаспадарчую дзейнасць пры БГКТ, разгледзець справу падпарадкавання БГКТ Міністэрству культуры і мастацтва.

**Фёдар Галёнка з Варшавы** параўнаў абставіны польскай меншасці ў СССР з абставінамі беларусаў у Польшчы. На яго думку, тэзіс аб тым, быццам беларусы ў Польшчы карыстаюцца большымі правамі, чымсьці палякі ў СССР — неапраўданы. А польскія ўлады са свайго боку стараюцца падтрымліваць міф аб уяўнай, паводле меркавання Ф. Галёнкі, свабодзе беларусаў у Польшчы ў развіцці сваіх нацыянальных памкненняў.

Цяжкія ўмовы беларусаў у Польшчы, на думку дэлегата, вынікаюць з адсутнасці адпаведных юрыдычных забеспячэнняў у гэтай справе. Трэба было б падумаць аб большай аўтанамізацыі беларускай меншасці на Беласточчыне. Асабліва не ўдакладняючы, які характар і абсяг магла б мець такая аўтаномія, Ф. Галёнка запрапанаваў уладам БГКТ заняцца апрацоўкаю праекта гэтакай аўтаноміі з мэтаю накіраваць яго на разгледжанне ў Раду Дзяржавы.

### ДРУЖБА — БОЛЬШ БЛІЗКАЯ

12 лістапада г.г. у Беластоку праходзіла XV ваяводская справаздачна-выбарная канферэнцыя Таварыства польска-савецкай дружбы (ТППР). Дэлегаты абмеркавалі справаздачу за гады 1983—1988, выбралі новыя ўлады і дэлегатаў на Краёвы з'езд, а таксама прынялі праграму на 1988—1993 г.г. Госцьмі З'езда былі: Пасол СССР у Польшчы Уладзімір Бровікаў, Маршалак Сейма і старшыня Краёвай Рады ТППР Раман Маліноўскі, многія прадстаўнікі цэнтральных і ваяводскіх улад, а таксама дэлегацыя ад Літоўскага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы.

У дыскусіі, якая разгарнулася пасля справаздачнага даклада старшыні Ваяводскага праўлення ТППР Мікалая Козака, не бракавала і беларускіх акцэнтаў. Вучаніца Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы Альжбета Валкавыцкая дэталёва паінфармавала аб штодзённай працы і дасягненнях школьнага гуртка ТППР, а таксама зрабіла прапанову адкрыць у Гайнаўцы кнігарню з савецкімі выданнямі.

Аб супрацоўніцтве ТППР і БГКТ гаварыла Валянціна Ласкевіч — член Прэзідыума ГП і старшыня Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Яна расказала аб некаторых формах дзейнасці Беларускага таварыства, якія з'яўляюцца прыкладамі канкрэтнага ўдзелу нашай арганізацыі ў ажыццяўленні ідэі дружбы і супрацоўніцтва з Гродзенскай вобласцю і ўсёй Савецкай Беларуссю. З гэтай мэтай арганізуюцца Таварыствам конкурсы беларускай песні, народныя фэсты, святы беларускай культуры, чытальніцкія і

(Працяг на стар. 4)

## БЕЛАРУСІКІ


Rahojsza Wiaczasłaŭ, Niasie jana dar... Biełaruskaja paezija na ruskaj i ukrainskaj mowach. Mińsk 1977. Rec. Nieborjaczok F., *Zagadnienia Rodzajów Literackich* t. 22, 1979, z. 2, s. 97—100.

Rahojsza Wiaczasłaŭ, Napisana rukoj Kupały. Mińsk 1981. Rec. Białokozowicz Bazyli, *Slavia Orientalis* 1983, nr 1/3, s. 177—181.

Ralko Iwan, Biełaruski wiersz. Mińsk 1969. Rec. Rahojsza Wiaczesław, *Zagadnienia Rodzajów Literackich* t. 16, 1973, z. 1, s. 109—112.

Rastitielnyj pokrow Biełorussii. Mińsk 1969. Rec. Jaworski Andrzej, *Sylwan* 1974, nr 10, s. 85—88.

Rawski Tadeusz, Bitwa białoruska. *Polityka* 1984, nr 25, s. 14, il.

Reperowicz Stanisław, Egzamin bojowy nad Turią i Bugiem. (1 Front Białoruski). *Trybuna Ludu* 1984, nr 169, s. 5.

Reychman Jan, Nowe prace o zabytkach piśmiennictwa polsko-białoruskiego pismem arabskim. *Przegląd Orientalistyczny* 1970, nr 4, s. 344—353, il.

Rieger Janusz, Białoruskie nazwy miesięcy w zapisie z początku XVI w. *Acta Baltico-Slavica* t. 16, 1984, s. 219—220.

Riewolucyonnyj put' Kompartii Zapadnoj Biełorussii (1921—1939 g). Mińsk 1966. Rec. Bergman Stefan, Z *Pola Walki* 1968, nr 1, s. 239—243.

Rogalska Maria, Białorusini w oczach piłsudczyków. *Kontrasty* 1985, nr 6, s. 30—36, il.

Rogowski Stanisław, Polski Urząd do Spraw Mniejszości (1922—1937). *Acta Uniwersitatis Wratislaviensis no 411 Prawo* 1979, t. 73, s. 3—19, tab.

Romańczuk Szymon, Dziadek Andrzej. Fragm. opow. Tł. z białor. Wiktor Rudczyk. Il. Jerzy Łobaczewski. *Kontrasty* 1968, nr 4, s. 23.

Rostropowicz Bohdan, Nie wolno zapomnieć. Korespondencja z Białoruskiej SRR. — Skojarzenia i refleksje. (O polskich kobietach walczących podczas II wojny światowej). — Z kościuszkowskiego kalendarza. Początek drogi. *Za Wolność i Lud* 1973, nr 16, s. 10—11; nr 17, s. 12—13; nr 20, s. 10——11, il.

R.S., Rolnictwo Białoruskiej Republiki Socjalistycznej. *Nowe Rolnictwo* 1974, nr 4, s. 21—23.

Ruckaja Alena, Wszystko od razu się odmieniło (w). Tł. z białor. Jan Huszcza. *Profile* 1970, nr 11, s. 37.

Rudczyk Wiktor, W Polsce po białorusku. *Twórczość* 1967, nr 2, s. 140——142.

Rudczyk Wiktor, (Antologia wierszy poetów białoruskich mieszkających w Polsce). *Kontrasty* 1968, nr 4, s. 24—25, il.

Rudczyk Wiktor, Polonica u sąsiadów zza miedzy. *Kontrasty* 1971, nr 4, s. 33.

(Rudczyk Wiktor) W. R., W Polsce po białorusku. *Życie Literackie* R. 18, 1968, nr 3, s. 6.

Rudczyk Wiktor, Białostoccy literaci mają zaszczyt przedstawić się. *Kontrasty* R. 6, 1973, nr 2, s. 2 okł., 12, il.

Rudczyk Wiktor, Poezja ziemi naszej (o Aleksandrze Barszczewskim). *Kontrasty* R. 2, 1969, nr 5, s. 35.

Rudziński Cezary, Partyzanci. Drogami Białorusi. Korespondencja z Mińska. *Życie Warszawy* 1967, nr 225, s. 2.

Ruhle Edward, Nowe profile osadów czwartorzędowych zachodniej Białorusi. *Przegląd Geologiczny* 1976, nr 11, s. 662—666, rys.

Ruhle Edward, Poszukiwania bursztynu w utworach paleogeńskich dorzecza Prypeci i na półwyspie Sambii. *Technika Poszukiwań Geologicznych* 1985, z. 2, s. 30—33, mapa.

Saławiej Lija, Biełaruskaja narodnaja bałada. Mińsk 1978. Rec. Sielicki Franciszek, *Acta Uniwersitatis Wratislaviensis no 589 Slavia Wratislaviensia* 1982, t. 22, s. 105—106.


P.C.

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Свіран у Пухлах.*
*Мал. У. Петрука.*

(Працяг са стар. 2)

### ДРУЖБА — БОЛЬШ БЛІЗКАЯ

дэкламатарскія конкурсы, вечарыны. Зараз ствараюцца магчымасці шырэйшых кантактаў з працаўнікамі навукі і культуры, з мастацкімі калектывамі з БССР. Частку мерапрыемстваў БГКТ праводзіць супольна з Ваяводскім праўленнем ТППР.

— Думаю, — гаварыла Валянціна Ласкевіч, — што трэба ў будучыні працягваць практыку арганізавання супольных пасяджэнняў прэзідыумаў ВП ТППР і ГП БГКТ, апрацоўвання супольных праграм дзеяння, наладжвання супрацоўніцтва гурткоў ТППР і БГКТ. На ніве ТППР павінна БГКТ развіваць і ўдасканальваць супрацоўніцтва з Беларуссю ў галіне культуры, абмену мастацкімі калектывамі і інструктарамі для аматарскага руху.

Пасол СССР Уладзімір Бровікаў высока ацаніў актыўнасць беластоцкай арганізацыі ТППР, якая пастаянна знаходзіцца ў пошуках новых форм дзеяння. Беластоцкае ваяводства з'яўляецца самым актыўным па шырыні і глыбіні супрацоўніцтва з Літоўскай ССР і Гродзенскай вобласцю БССР. Пасол Уладзімір Бровікаў сказаў, што з прыемнасцю прыязджае ў Беласток. Тут, на Беласточчыне, пражывае самая вялікая папуляцыя беларусаў у ПНР, а ён, як сам заявіў, ураджэнец БССР і беларус па нацыянальнасці.

— Зараз супрацоўніцтва між нашымі краінамі, — гаварыў, — спускаецца ўсё ніжэй і ніжэй, аж да сямейнага ўзроўню. Наша граніца становіцца штораз больш граніцай абмену і блізкіх кантактаў.

Дэлегаты выбралі новае 60-асабовае Ваяводскае праўленне ТППР, а яно функцыю старшыні паўторна даручыла Мікалаю Козаку. На жаль, у складзе праўлення няма нікога з прадстаўнікоў БГКТ. Лічу гэта вынікам нізкай актыўнасці Беларускага таварыства ў адносінах да ТППР у мінулым. Трэба спадзявацца, што больш цеснае супрацоўніцтва абедзвюх арганізацый наладзіцца, тым больш, што ідэя польска-савецкай дружбы Беларускаму таварыству не чужая і практычна рэалізуецца ва ўсіх формах дзейнасці БГКТ.

**В. Луба**

## РАЗМОВЫ АБ НАРОДНЫМ

### КАЛІ НАРАДЖАЕЦЦА ЧАЛАВЕК

— Нарадзіны чалавека. Як гэты факт адзначаўся ў народнай культуры вёскі Рыбалы?

**Ліда Мартынюк:** — Цяпер гаворыцца і пішацца многа аб тым, што новы чалавек фармуецца, яшчэ будучы ва ўлонні маці. Таму трэба, гавораць вучоныя, шанаваць цяжарную жанчыну і сама яна павінна шанаваць сябе. У Рыбалах да сёння захавалася моцнае народнае перакананне ў тым, што цяжарнай жанчыне нельга ў нічым адмовіць. Некаторыя ў нашай вёсцы вельмі сур'ёзна прытрымліваюцца гэтага звычаю, іншыя менш. Але ўсё ж усе яшчэ ў гэта вераць.

— Што ж у святле народнай мудрасці павінна, а чаго не павінна рабіць цяжарная жанчына?

**Л.М.:** — 1) не можа глядзець на нябожчыка, бо дзіця будзе хварэць; 2) калі ўбачыць пажар, не можа дакранацца рукой да свайго цела, бо ў тым месцы ў дзіцяці будзе чырвоная пляма; 3) не можа праходзіць пад шнурком, бо пупавіна ў дзіцяці будзе закручана за шыю; 4) не можа глядзець у дзірачку ад ключа, бо дзіця будзе касавокае; 5) у цяжарную нельга нічым кідаць, бо ў дзіцяці будзе знак; 6) цяжарная павінна заўсёды хваліцца, то дзіця будзе інтэлігентнае.

— Як з гэтых павучэнняў відаць, беларусы ў Рыбалах хацелі, каб дзеці радзіліся здаровымі і разумнымі, а, напрыклад, апошні загад абазначае, што цяжарная жанчына павінна быць пагодлівая і радасная, а гэта мае глыбокі і абгрунтаваны сэнс, пацверджаны навукай. То ж настрой маці перадаецца дзіцяці. А далей? Наступаюць нарадзіны...

**Л.М.:** — Цяпер дзеці родзяцца ў бальніцах, калісьці радзіліся заўсёды ў хаце. Дзіця прымала „бабка" і яна першы раз яго купала. Роды праходзілі па-рознаму, часам жанчына мучылася 2—3 дні. Каб памагчы і аблегчыць цярпенні, ёй расплятали косы, адчынялі вокны і дзверы, развязвалі ўсе вузлы. Нехта з сям'і ішоў да царкоўнага старасты, каб той у царкве адкрыў „Царскія вароты". Шчасце чалавека ў народных вераваннях вёскі Рыбалы залежала ад дня, у які ён нарадзіўся. Народжанаму ў пятніцу варажылі нешчаслівае жыццё, у чацвер — здольны ў гандлі, у нядзелю — лянівы, але шчаслівы. Нешчаслівая была для родаў першая нядзеля пасля Вялікадня — „Провады".

Породіла мэнэ маті
У проводну нэдіелю,
Дала ліху долю,
Дэ я ее падієну...
(Запіс ад В. Карнілюк, 70 г.)

Шчаслівае будзе дзіця, народжанае ў „шапцы" — „вуон у шапці роджаны". (У Карскага шапка называецца сарочкай). Пра адно дзіця ў сям'і гаварылі: „з одінака выростэ нэ злодій, то собака" (В. Карнілюк). Даўней радзілася многа дзяцей. Нашы беларускія продкі кожнае дзіця прымалі як божае благаслаўленне.

— Якія былі наступныя этапы малога чалавека ў жыцці?

**Л.М.:** — Адведкі і хрысціны. У адведкі жанчыны прыходзілі, ды прыходзяць у нас і цяпер, на другі-трэці дзень. Прыносілі яйкі, хлеб, каўбасу, пірог і абавязкова бутэльку віна ці гарэлкі. Усё гэта завязвалі ў хустку, а калі ўваходзілі ў хату, развязвалі вузлы, каб дзіця хутка расло і развівалася. Кожная адведніца падыходзіла да дзіцяці, каб глянуць на яго, але пры гэтым казала: „цьфу, якое брыдкое" — гэта таму, каб было прыгожае і каб не пашкодзіць дзіцяці. Перад адведкамі маці завязвала дзіцяці на ручку чырвоную стужку або накладала сарочку на левы бок, каб ніхто маленькага не паўрочыў, каб жывоцік не балеў. Потым адведніцы сядалі за стол, частаваліся. Багаты стол меў запэўніць дзіцяці багатае жыццё.

Хрысцілі дзіця ў нядзелю або святам. Хворае дзіця трэба было ахрысціць як найхутчэй. Да хрысту нельга было дзіцяці выносіць на двор, каб не дапусціць да кантакту са „злым духам". Бацькі на хрысцінах у царкве не прысутнічалі. Дзіця падавалі „да хрысту" кум і кума. Свяшчэннік „мірам" абмываў дзіцяці ступенькі і далоні. „Мір" можна было змыць толькі праз тры дні. У дзень хрысцін першымі ў хату прыходзілі кумы і „бабка". У Рыбалах перад хрыстом заўсёды купала дзіця тая бабка, якая яго пры-

# ТАМ, ДЗЕ СЫХОДЗЯЦЦА ГРАНІЦЫ

Ліпск над Бобрай — гэта горад, які знаходзіцца не толькі на граніцы двух ваяводстваў — Беластоцкага і Сувальскага, але таксама і недалёка ад сутыкнення ў адным пункце трох дзяржаўных граніц — літоўскай, беларускай і польскай. Пераплятаюцца тут вельмі багата, уплываючы і ўзбагачаючы адны другіх, культуры, звычаі і традыцыі трох народаў. І сапраўды, часта бывае цяжка адрозніць, з якой краіны ў прыгранічных раёнах паходзіць вытканы народнымі ўмельцамі дыван, абрус ці нават звычайная радзюшка.

Ліпск утрымоўвае пастаянныя сяброўскія кантакты і з Вільнюсам, і з Гроднам. Дом культуры працуе тут вельмі дзейсна, розныя культурныя мерапрыемствы адбываюцца часта і на высокім узроўні.

Неяк на пачатку лістапада Ліпскі дом культуры запрасіў нас на цікавае мерапрыемства — гадавы справаздачны сход гуртка вясковых гаспадынь разам з мясцовым гуртком народных умельцаў. Гурток гаспадынь вырашыў частаваць гасцей пірагамі і іншымі ласункамі ўласнай работы, народныя ўмельцы, згуртаваныя пры „Цэпэліі“, падрыхтавалі выстаўку сваіх вырабаў, ды не самі, а ў супрацоўніцтве з народнымі мастакамі Гродзеншчыны. Дом культуры запрасіў таксама да сябе на гэты час у рамках прыгранічнага супрацоўніцтва мастацкі калектыў з аднаго з прыгродзенскіх калгасаў. Такім чынам, гэты дзень рыхтаваліся зрабіць вялікім святам. Запрошаны былі госці з Сувальскага і Беластоцкага ваяводстваў, кіраўнікі беластоцкай „Цэпэліі“ і іншыя.

Сярод ліпскіх народных умельцаў найбольш славяцца ткачыхі. Іх двухасноўвавыя і іншыя дываны „Цэпэлія“ прадае не толькі ў Польшчы, але і па-за яе межамі, у многіх краінах свету. А ў апошняе дзесяцігоддзе вельмі папулярным стаў тут выраб па заказу „Цэпэліі“ велікодных пісанак. Многія жыхары Ліпска і ваколіц, здаўна добрыя майстры ў гэтай галіне, пачалі трактаваць гэты прыемны занятак і як важную галіну ў сямейных даходах. Варта падкрэсліць, што значную дапамогу старэйшым у гэтым аказваюць і дзеці, адначасова і вучачыся і ўдасканальваючы сваё ўменне. А гэта ж таксама пэўнасць, што нашыя народныя традыцыі не толькі не пойдуць у забыццё, але будуць жыць і развівацца.

Кіруе гуртком народных умельцаў у Ліпску Крыстына Цеслюк, сама майстар на ўсе рукі, але не толькі. Аб ёй можна было сказаць, што не менш здольныя ў яе і ногі. Бо пані Крыстына — кіраўнік вядомага ў ваколіцы, ды і не толькі танцавальнага калектыву „Ліпск“, які працуе пад яе мастацкім кіраўніцтвам ад 1973 года. Калектыў упрыгожвае сваімі выступленнямі ўсе народныя святы ў Сувальскім ваяводстве, а таксама рэгулярна ўдзельнічае ў агульнапольскіх аглядах народных калектываў. Танцавальны калектыў „Ліпск“ — гэта пераемнік традыцый калектыву „Ліпск“, які існаваў у мястэчку цэлае перадваеннае дзесяцігоддзе з 1929 па 1939 год.

Гурток вясковых гаспадынь таксама працуе вельмі актыўна, уключаецца ва ўсе галіны жыцця свайго горада. Самі жанчыны вельмі часта арганізуюць сустрэчы з цікавымі людзьмі, розныя неабходныя ў вядзенні дома курсы па хатняй гаспадарцы, заняткі па рукадзеллю, вядуць выпазычальню прадметаў хатняга ўжытку. На сваім справаздачным сходзе жанчыны гаварылі аб усім гэтым. Яны вырашылі перадаць чвэрць мільёна злотых са сваіх сродкаў на фонд пабудовы санаторыя для вясковых дзяцей у Рабцы, а таксама ўручылі ашчадную кніжачку з поўным укладам грошай на кватэру хлопцу-сіраце, які знаходзіўся пад апекай гуртка і цяпер скончыў 18 год.

Урачысты супольны сход гуртка вясковых гаспадынь і гуртка народных умельцаў адбыўся ў вызначаны час і ў прысутнасці запрошаных гасцей. Не даехалі толькі гродзенцы. Скрыня з экспанатамі на выстаўку народных вырабаў „загразла“ недзе на граніцы, а мастацкі калектыў у апошні дзень перад канцэртам паведаміў, што свой прыезд перакладае на тыдзень.

Вельмі шкадавалі запрошаныя госці. Бо цяжка напэўна будзе ім выгаспадарыць час, каб зноў праз некалькі дзён пабываць у Ліпску.

Як паведаміў нас ліпскі дом культуры, тыдзень пазней, 11 лістапада ў Ліпску выступіла з вялікім поспехам 29-асабовая група ансамбля песні і танца „Ніва“, які працуе пры гродзенскім калгасе „Прагрэс“. Калектыў, хоць самадзейны, адзначаецца высокім прафесіяналізмам, бачылі яго гледачы многіх краін свету, у тым ліку Аўстрыі, Балгарыі, Югаславіі, Польшчы. Канцэрт быў цудоўны. І многія жыхары Ліпска, ды і мы таксама, вельмі шкадавалі, што канцэрт адбыўся у 12 гадзін дня ў рабочы дзень (пятніца). Мала хто з ахвотных меў магчымасць прысутнічаць на сапраўдным свяце беларускай музыкі, песні і танца.

Вельмі хацелася б нам усім, і польскаму, і савецкаму боку, каб як найхутчэй удалося знесці розныя арганізацыйныя перашкоды, дапрацаваць спосабы цяснейшага супрацоўніцтва, каб сустракацца па-сяброўску часцей і звычайней.

**Яніна Чэрнякевіч**

# КАБ ЛЮДЗЯМ ЖЫЛОСЯ ЛЯГЧЭЙ, І ЛЮДЗІ ЖЫЛІ Ў ДАСТАТКУ

**(Працяг са стар. 1)**

леныя кантакты з 47 савецкімі партнёрамі. Апрача таго, партнёрскае супрацоўніцтва ажыццяўляюць больш за 650 разнастайных вытворчых прадпрыемстваў, звыш 250 розных устаноў і каля 140 мясцовых грамадскіх арганізацый. Гэтае супрацоўніцтва праходзіць па-рознаму і па зместу і па формах.

Прыгадваем, што Белападляшскае ваяводства супрацоўнічае з Брэсцкай вобласцю, Беластоцкае з Гродзенскай, Яленегурскае з Гомельскай, Люблінскае з Эстоніяй, Альштынскае з Калінінградскай, Плоцкае з Мінскай, Сувальскае з Літвой, Шчэцінскае з Латвіяй, Вроцлаўскае з Магілёўскай, Зялёнагурскае з Віцебскай. У кожнай з гэтых супрацоўнічаючых параў ёсць значныя дасягненні, але не мала таксама і праблемаў ды цяжкасцей.

Напрыклад, I сакратар абкома КПБ Брэсцкай вобласці Анатоль Антонавіч Зеляноўскі праінфармаваў, што Брэстчына некалькі год супрацоўнічае з Белападляшскім ваяводствам, Дасягнулі яны нядрэнных вынікаў ва ўзаемнай дапамозе ў жыллёвым будаўніцтве і ў пабудове прадпрыемства мясной прамысловасці, паўстала і разгортваецца вытворчая стажыроўка працоўных калектываў, развіваецца абмен кнігамі паміж бібліятэкамі, экспазіцыямі паміж музеямі, у 1988 г. па 600 дзяцей з кожнага боку адпачывала на Берасцейшчыне і на Падляшшы, на Брэстчыне пры дапамозе польскіх сяброў паўстае 3 дыска-клубы. Прыемная справа — гэта ўзаемныя візіты сем'яў. Выдатна праходзяць Дні Брэста ў Белай-Падляшскай і Белай-Падляшскай у Брэсце. На супольных семінарах абменьваюцца вопытам працы вучоныя, дзеячы прафесіянальных саюзаў, маладзёжных арганізацый, часта абменьваюцца журналістамі рэдакцыі. Відаць патрэба, каб супрацоўніцтва паглыбіць і пашырыць, каб яно развілося паміж сельсаветамі і гмінамі, не абмяжоўвалася толькі адной вобласцю ці ваяводствам. Неабходна пераадолець вялікую цяжкасць у фінансавых узаемных разліках. Вельмі добрая справа — гэта прыгранічныя кірмашы.

Першы сакратар ВК ПАРП у Беластоку У. Каладзеюк адзначыў, што ў апошніх гадах, асабліва ў апошнім годзе, наступіла выдатнае ажыўленне супрацоўніцтва Беласточчыны з Літвой і Гродзеншчынай і то даслоўна ва ўсіх дзялянках, у тым ліку ў абмене вопытам партыйнай работы, у галіне ідэалогіі, культуры, навукі, асветы, асабліва шырока ў гаспадарцы: абмене тэхналогіі, спецыялістычнага абсталявання і паўсюдна заўважальнага абмену таварамі. Дагэтуляшнія сувязі моцна інтэнсіфікаваліся, падняліся на якасна новы ўзровень.



Дэлегацыя Гродзеншчыны на чале з намеснікам члена ЦК КПСС, I сакратаром Гродзенскага абкома КПБ Л. Г. Кляцковым (трэці справа) сярод працаўнікоў прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя Сяржана ў Беластоку.

На пацвярджэнне выказвання У. Каладзеюка варта прыгадаць, што ў 1988 г. да 25 красавіка беластоцкія гандлюючыя арганізацыі выслалі ў СССР тавары агульнай вартасцю ў 354 мільёны зл., у тым ліку на Гродзеншчыну вартасцю ў 269 млн. зл., у Літву — 85 млн. зл. З Савецкага Саюза атрымалі ў тым жа часе тавары агульнай вартасцю 3 млн., рублёў, г.зн. каля 400 млн. зл., у тым ліку з БССР вартасцю ў 2 млн. руб. і з Літоўскай ССР — 1 млн. руб. З СССР паступаюць да нас розныя тавары, але ў большасці рыбныя кансервы, тэкстыльныя вырабы, абсталяванне хатняй гаспадаркі, этэрніт, гадзіннікі, лялькі і інш. З Беласточчыны ідуць у СССР перш за ўсё касметыка і канфекцыйныя вырабы паланійных фірмаў і рамяства, спажывецкія канцэнтраты, пэндзлі, фарбы і г.д.

Вельмі шырокі абмен праводзіцца паміж прамысловымі, будаўнічымі, камунальнымі і іншымі прадпрыемствамі, не менш плённа супрацоўнічаюць нашыя сельскія гаспадаркі, сельскагаспадарча-спажывецкая і драўнінная прамысловасці. Між іншым, у бягучым годзе наогул паспяхова рэалізуюцца 90 па-

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**III. Суадносіны паміж сучаснай беларускай літаратурнай мовай і народнымі гаворкамі.**

**2. Другая палавіна XIX ст.**

Асаблівасці паўднёва-заходніх беларускіх гаворак знайшлі сваё адлюстраванне ў мове „Mużyckaj Praudy" К. Каліноўскага: недысімілятыўнае няпоўнае аканне, часам непаслядоўна праведзенае (*bahactwo, kałoło* — Nr 2, і: *poustania, sobaczoho* — Nr 5), рэдкія прыклады якання (*dziaciuki, niawolu* — Nr 3), якому супрацьпастаўляюцца формы з захаваным *е* (*dzieciuki, niechaj* — Nr 1, *pabiery* — Nr 1, 2), дзеканне, цеканне (*swabodzie, pierelecić* — Nr 1), цвёрдае *р* (*pierelecić* — Nr 1), цвёрдыя шыпячыя (*abieszczali, niechaj że, uże* — Nr 1, 2), фрыкатыўнае *г* (*bahactwo, druhi* — Nr 2), адсутнасць падаўжэння зычных (*poustanie, sumlenie* — Nr 1, 2), прыметнікі мужчынскага роду адзіночнага ліку з канчаткам *-і* (*-ы*) у назоўным склоне (*bolszy, druhi* — Nr 1, 2), і канчаткам *-ом* у месным склоне (*na całuśkom świecie* — Nr 3), формы 3 асобы адзіночнага ліку дзеясловаў I спражэння ўжываюцца без канчатковага *-ць* (*idzie* — Nr 5, *każe* — Nr 2), а II спражэння з канчатковым *-ць* (*służyć* — Nr 2), формы інфінітываў на *-ці* (*pieremieniaci, uczyci* — Nr 6).

Выдатным беларускім паэтам другой палавіны XIX ст. быў Францішак Багушэвіч. У яго творах адлюстраваліся асаблівасці маладзечанскіх гаворак: поўнае недысімілятыўнае аканне (*baranilasia, czutka, nadarwutca*), недысімілятыўнае яканне (*nia curajsia, slaza, ziamla*), дзеканне і цеканне (*budzić, ciabie*), фрыкатыўнае *г* (*hranie, niadouha*), цвёрдае *р*, шыпячыя і *ц* (*treśnie, kabże, kałasoczki, ruce*), адсутнасць падаўжэння зычных (*hranie, powitanie, wasele*), канчатак *-ы* (*-і*) прыметнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку (*dobry*), дзеясловы I і II спражэння ў 3 асобе адзіночнага ліку выступаюць факультатыўна з канцавым *-ць* і без (*budzie, treśnie, żywieć; nia zarazić, zrosia*).

Ф. Багушэвіч змагаўся за станаўленне беларускай мовы ў літаратуры: „Bratcy miłyje, dzieci Ziamli-Matki majej! Wam achwiarujuczy pracu swaju, muszu z wami pahawaryć trochi ab naszaj doli-niadoli, ab naszaj baćkawaj spradwiecznaj mowie, katoruju my sami, dy i nie adny my, a usie ludzi ciomnyje mużyckaj zawuć, a zawiecca jana „Biełaruskaj". Ja sam kaliś dumau, szto mowa nasza — „mużyckaja" mowa i tolki taho! Ale, pozdarou Boże dobrych ludcou, jak nawuczyli mianie czytać-pisać, s tej pary ja szmat hdzie byu, szmat czaho widzieu i czytau: i prakanausia, szto mowa naszaja jość takaja-ż ludzkaja i panskaja jak i francuskaja abo niamieckaja, abo i inszaja jakaja". [1])

Пісьменнікі XIX ст. свядома ўводзілі мясцовыя дыялекты ў літаратурнае ўжыванне, паколькі апорнага дыялекту не было і не вядома было, які пераможа. Аб гэтым сведчыць адказ Альгерда Абуховіча (аўтара беларускіх вершаў, мемуараў і перакладаў з Міцкевіча, Сыракомлі і Лермантава) Францішку Багушэвічу на яго папрок за ўжыванне неўласцівых беларускай мове акцэнтаў:

У гаворцы ёсць ружніца
Між маею і тваей:
Маей — пушчы, Птыч граніца,
Ты — панарскі салавей!

Гэтым Абуховіч падкрэслівае свае суадносіны са Случчынай, а Багушэвіча — з гаворкамі каля Вільні. [2])

„Гэты адказ паказвае, што ў XIX ст. яшчэ не былі выпрацаваны агульнапрынятыя нормы літаратурнай мовы, таму што пісьменнікі, як правіла, імкнуцца ўвесці ў літаратурнае ўжыванне блізкія ім дыялекты. Яшчэ ў канцы стагоддзя вядуцца спрэчкі аб выбары апорнага дыялекту, хаця ўжо вызначаецца група пісьменнікаў, у мове твораў якіх адлюстраваліся асаблівасці гаворак у зоне паміж Вільняй і Мінскам (Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Я Лучына, які нарадзіўся і жыў у Мінску і пісаў пад значным уплывам Багушэвіча, Адам Гурыновіч — ураджэнец Віленскага павета і інш.)" [3])

„Творы гэтых пісьменнікаў выяўляюць узор літаратурнай мовы. Назіраецца ў пісьменнікаў імкненне да асэнсаванага адбору моўных сродкаў і рэгламентацыі ў іх выкарыстанні, да мастацкай іх апрацоўкі ў адпаведнасці з эстэтычнымі крытэрыямі свайго часу, да надання ім (моўным сродкам) статуса агульнапрызнанасці, наддыялектнасці. Дзякуючы гэтаму мова твораў беларускай літаратуры XIX ст. набывае адметнасць апрацаванасці — тое, што ў першую чаргу характарызуе літаратурныя мовы і адрознівае іх ад іншых моўных утварэнняў". [4])

**(Працяг на стар. 11)**

## З ЛІТОЎСКАЙ КУХНІ

### ЗАПЯКАНКА З ЦЯЛЯЦІНЫ І СЕЛЯДЦОЎ

На паўкілаграма печанай ці варанай цяляціны трэба ўзяць два салоныя селядцы, 4 дэкі масла, 2—3 кромкі булкі, 1 яйка, 1/4 шклянкі смятаны, 2 цыбуліны, перац, лаўровы лісток, каляндру, соль, паўкілаграма пюрэ з бульбы.

Цяляціну, вымачанае філе селядцоў і падсмажаную на масле цыбулю прапусціць праз мясарубку, дадаць намочаную і выцісненую булку, жаўток, прыправы і соль. Усё расцерці на адналіттую масу. Масу вымяшаць са збітым бялком.

Форму для запяканкі змазаць маслам і класці ў яе пластамі бульбяное пюрэ і падрыхтаваную мясную масу. Пюрэ павінна быць унізе і наверсе. Зверху запяканку паліць растопленым маслам ці смятанай і запякаць каля паўгадзіны. Падаюць запяканку з вострым таматным соусам, з кіслымі агуркамі і памідорамі.

### ПЕЛЬМЕНІ З ГРЫБАМІ І СЕЛЯДЦОМ

**Фарш:** 12—15 сушаных грыбоў, 1—2 цыбуліны, 2 лыжкі масла, 2 лыжкі сцертай на тарцы булкі, 1 салоны селядзец, 2 яйкі, соль, вада.

**Цеста:** 3 шклянкі мукі, 2—3 яйкі, соль, вада.

Грыбы памыць у цёплай вадзе, зварыць, дробна пасячы. На лыжцы масла падсмажыць дробна пасечаную цыбулю. Цыбулю дадаць да грыбоў і перамяшаць.

Селядзец вымачыць, абабраць і пасячы. Спалучыць яго з грыбамі. Тады дадаць 2 яйкі, крыху солі і перцу і яшчэ раз усё перамяшаць.

Раскатаць цеста, падрыхтаванае з мукі, яек і вады. Пры дапамозе формачкі выразаць з цеста кружкі на пельмені, накладаць на іх грыбны фарш і рабіць пельмені.

Пельмені класці ў пасоленую, кіпячую ваду. Калі выплываюць наверх, адцадзіць іх і, падаючы на стол, паліць растопленым маслам і цертай булкай.

**Гаспадыня**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне, Астроне, што памірае мая маці. Я да таго моцна веру ў гэта, што ўва сне думаю: Божа, каб гэта быў сон! Але ж не, гляджу — гэта не сон. Маці мая сапраўды памірае, ужо вось заплюшчыла вочы. Я не падтрымала рукой, а яна проста так і апала, быццам ужо нежывая. Я ў страшэннай роспачы і з усяго гэтага пачынаю горка плакаць.

Калі сапраўды прачнулася, то адчула вялікую палёгку, што маці мая жыве і ўсё гэта было толькі сном. Цяжка нават табе расказаць, як я ўцешылася. Маці для мяне — гэта ўсё. І што б я мела рабіць без яе?

**Аліна**

Аліна! Страшна пра тое думаць, але ўсё роўна такі ўжо лёс, што бацькі адыходзяць з гэтага свету раней за дзяцей. Але пакуль што магу цябе пацешыць. Сон твой зусім не такі кепскі, як табе здавалася б. Абазначае ён, што твая маці будзе яшчэ жыць шмат год у добрым здароўі. Цябе ж напаткае нейкая неспадзяваная радасць. Аб гэтым сведчаць тыя горкія слёзы.

**Астрон**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Вось ужо, бадай, месяц мінуў, як я трапіў у тупік, з якога пакуль што не бачу аніякага выхаду. А здавалася, мела быць усё так добра, мелі быць сустрэчы і шпацыры пры месячным небе, зразуменне — адным словам, каханне. Неспадзявана ўсё змянілася ў маю некарысць. Заўсёды так бывае, калі чалавек робіць сабе шмат надзеяў, уяўляючы светлае іх здзяйсненне.

А пачалося ўсё звычайна. Аднойчы, калі я быў на вясковай забаве разам са сваім верным сябрам Алікам, мы пазнаёміліся з дзвюма прыгожымі дзяўчаткамі, як потым высветлілася, студэнткамі даволі прэстыжнага факультэта ў Беластоку. Вечар і частку ночы правялі мы на лавачцы ў атмасферы вясёлых жартаў і сяброўскіх гутарак. Потым з адной з іх, Асяй, сустрэўся я зусім нечакана і выпадкова на экскурсіі ў Венгрыі. І тут пачалося наша бліжэйшае знаёмства. Я памагаў прадаваць ёй тавары, бегаў па розных крамах, а ўвечары мы спатыкаліся то ў нейкай кавярні, то на шпацыры, а цела грэла летняе сонца. Вярталіся вясёлыя, поўныя радасці жыцця, надзеі на будучыню, і мне здавалася, што між намі нараджаецца каханне. Праз усю пабыўку ў Венгрыі для мяне існавала толькі яна, на іншых дзевак увогуле не звяртаў увагі, хаця трэба сказаць, што ў венграў ёсць поўны асартымент антыканцэпцыйных сродкаў ды дзеўкі неяк больш схільныя да сужыцця з мужчынамі.

І так мы прыехалі дахаты. На вакзале былі чуллівыя развітальныя пацалункі, абмен адрасамі. Дамаўляемся на сустрэчу. Сустрэча гэтая сталася пераломным момантам у маім, дагэтуль шэрым, жыцці, пацалункі, пяшчоты, я прызнаўся ёй у каханні, яна мне. Супольная ноч, потым снеданне ў ложку, ну, адным словам, быў я ў сёмым небе. Так было на працягу амаль двух тыдняў. Потым лёс нас раздзяліў на два месяцы. Яна занялася сваімі справамі, нейкія студэнцкія практыкі, выезды, а я папёрся ў камандзіроўку, дзе чакала мяне даволі шмат працы. Тыдні да сустрэчы з каханай цягнуліся... Вяртаючыся дахаты з камандзіроўкі, задумаў я наведаць яе ў Беластоку. Заходжу ў студэнцкі інтэрнат, пытаю ў рэцэпцыі, дзе яна жыве, накіроўваюць мяне ў адпаведны пакойчык, іду. Уваходжу, а там за дзвярыма ўдар, быццам абухом па галаве. У пасцелі ляжаць „мая" Ася і хто? Мой верны сябра Алік... На пачатку нават не звярнулі на мяне ўвагі, так былі сабою заняты, але потым неяк спахапіліся, што хтосьці ўвайшоў. Я нават слова не прамовіў, выбег, як ашалелы, з яе пакойчыка, ды паехаў дахаты на вёску. Два тыдні прасядзеў я на вёсцы ў бацькоў. Ледзь прыйшоў у сябе. З цяжкім сэрцам зразумеў я, што я быў для яе толькі вакацыйнай, кароткатрывалай прыгодай, адной з многіх. Для мяне ж гэта было ўсё: і радасць, і боль, і надзея. І зразумеў яшчэ адно: не толькі гэтае каханне для мяне назаўсёды закончылася, але наўрад ці калі змагу ўвогуле каго-сьці пакахаць, камусьці даверыцца, з кімсьці пасябраваць...

І так мог бы выглядаць канец гэтай справы, але дзе там! Недзе з месяц таму назад пачаўся працяг усяго. „Мая" Мона Ліза пачала амаль штодзень тэлефанаваць мне, што хоча сур'ёзна са мною пагаварыць, а ўрэшце і сама з'явілася. Заявіла, што зараз яна цяжарная, што гэта маё дзіця; зноў быццам абухом па галаве. Пра аборт мовы быць не можа: па-першае, яна ведае, чым гэта пагражае ў будучыні, а, па-другое, з'яўляецца асобай надзвычай веруючай, так што з маральна-этычнага пункту гледжання такое рабіць не выпадае. Кажа, каб ажаніўся з ёю, а я нават не маю ўпэўненасці, ці гэта будзе сапраўды маё дзіця: магчыма, майго „сябры" Аліка, а магчыма, яшчэ кагосьці іншага. Жаніцца не маю аніякіх намераў. Мо ты, Сэрцайка, штосьці параіш, бо пакуль што я ў тупіку.

Нядаўна атрымаў ад свайго знаёмага запросіны ў краіну, дзе вада чыстая, трава зялёная, неба сіняе, свабода неабмежаваная ды, пэўна, такіх дурных праблемаў няма. Мабыць, найлепшым выхадам з гэтага становішча будзе, калі скарыстаю з гэтых запросінаў.

**Вячаслаў**

Дзіця! Яна тады ўжо была з тваім Алікам, а ты, бадай, на вочы не бачыў, а мо проста бачыў тое, што хацелася б табе бачыць. Дзяўчына з тваім сябрам, пэўна, пусцілася адразу, ды і ён не чакаў, пакуль сустрэне яе ў нейкай Венгрыі. Ты быў ёй надта парэбны, але толькі ў Венгрыі. Трэба ж было сплавіць неяк прывезены тавар! Вось ты і бегаў, бы той сабака, прадаваў, працаваў для Асі, не пытаючыся ні пра што.

Так што сапраўды, ты быў для яе толькі прыгодай, але прыгодай як бы крыху спалучанай, як гэта дзеецца сёння ў гандлі: любоўна-гандлёвай.

Навошта ўцякаць хочаш? Не жаніся і не ўцякай! Сам жа бачыш, што сядзець у хаце, нікуды носа не высоўваючы, найлепш аплоціцца. Прынамсі менш будзе сумненняў і расчараванняў.

**Сэрцайка**

P.S. Спецыфічная вера ў тваёй сяброўкі...

# Зорка

## Старонка для дзяцей





*(Лісіца-хітрыца далей едзе на Ваўку, спявае. Зяляне матыў).*

Эх, куры ды куры-курачкі!
Ды куры смажаны...

**Воўк** *(прытрымлецца і пачынае прыслухоўвацца).* Ты што гэта, кума, спяваеш?

**Лісіца-хітрыца.** Ох, кум, відаць, табе мазгі адбілі! Я плачу, а табе здаецца, што я спяваю.

**Воўк.** Злазь, кума! Далей не павязу, галава баліць, аж развальваецца.

**Лісіца-хітрыца** *(злазіць са спіны Ваўка, са слязьмі).* За што нам такое пакаранне? За што?! І гэта так нас зняважылі! Не быць табе старым Ваўком, а мне Лісіцай-хітрыцай, калі мы гэтым зайчанятам даруем. Нам праз іх столькі гора давялося глынуць. А яны цяпер адны ў хаце і больш нікога. Заяц-пузаяц яшчэ няскора вернецца. Той бандыт, што нас пабіў, недзе ўжо далёка. Я шчыліну ведаю. Заяц-пузаяц яшчэ не паспеў у хаце падлогу пакласці. Можна зрабіць падкоп і зайчанят перадушыць, як рудых мышэй, а затым і самога Зайца-пузайца, як прыйдзе... І ніхто не будзе ведаць.

**Воўк.** Галава занадта баліць.

**Лісіца-хітрыца** *(лісліва).* Я памагу. Табе застанецца мяса, а мне хата Зайца-пузайца. Будзеш да мяне ў госці прыходзіць. Для цябе тут заўсёды знойдзецца смажаная курацііна, і зайчаціна, і гусяціна... Ну, кум, што доўга думаеш?

**Воўк.** Галава баліць...

**Лісіца-хітрыца.** Тут не галавою трэба, а лапамі. Яны ж у цябе здаровыя. Ты зробіш падкоп, а я папільную. Лепшага памочніка, чым я, не знойдзеш. Уцячы, каб і хацела, дык не змагу. Буду да канца грызціся з любым ворагам, а сюды не падпушчу. Давай, даражэнькі, паўзі. Я ж за цябе галавою думаю. Табе папраўляцца трэба. Бачыш, галодны цягаешся. Хутка не будзеш падобны на Ваўка.

**Воўк** *(уздыхае).* Праўда, кума, галодны я, як сабака, і высах, як ражон.

Алесь Махнач

## СВАВОЛЬНЫЯ ЗАЙЧАНЯТЫ

**(Пачатак у папярэднім нумары)**

**Лісіца-хітрыца.** І на ражон не падобны, адна здань ад цябе засталася.

**Воўк** *(падумаўшы).* Сапраўды, ваўка толькі ногі кормяць. *(Ідзе да доміка Зайца-пузайца.)*

**Лісіца-хітрыца** *(услед).* Падкоп рабі з таго боку. Там глухая сцяна, вокан няма, не так прыкметна. Калі што, я адгэтуль табе крыкну. *(Хаваецца за куст.)*

*Падкраўшыся да доміка Зайца-пузайца, Воўк пачынае рабіць падкоп. Хутка ён знікае ў нары, адкуль толькі відаць, як вылятае пясок.*

*У гэты час непадалёку ад доміка зноў з'яўляецца Мядзведзь. Ён заўважае, што пад дом Зайца-пузайца хтосьці старанецца падкапацца, бярэ вялізны камень і завальвае ім выхад падкопу.*

**Голас Ваўка** *(з падкопу).* Агу-агу! Кума! Ратуй! Кума! Агу-агу-агу!

**Лісіца-хітрыца** *(сама сабе).* Ты, кум, мяне за дурную не лічы. Не такая Лісіца-хітрыца, каб сваю галаву падстаўляць. *(Вільнуўшы з-за куста хвастом, кідаецца наўцёкі.)*

**Мядзведзь** *(Ваўку).* Твая кума табе толькі хвост з-за куста паказала. Я думаю, ты здыхаць пад куст кулём пакоціўся, ажно зноў за сваю справу ўзяўся. Цяпер ніхто цябе не паміпуе.

*На выццё Ваўка прыбягае перапалоханы Заяц-пузаяц. Ён кідаецца да хаты.*

**Заяц-пузаяц** *(з трывогаю).* А дзеткі ж мае!

**Мядзведзь** *(выходзіць насустрач).* Не хвалюйся, Заяц-пузаяц, твае дзеткі жывыя-здаровыя.

**Заяц-пузаяц** *(стукае ў дзверы).* Роднеңькія, міленькія, адчыніце хутчэй! Гэта ваш тата!... *(Кідаецца да акна, стукае ў шыбу).* Зайка беленькі, Зайка шэранькі, адчыніце! Гэта я, ваш тата!

*Дзверы расчыняюцца, і насустрач Зайцу-пузайцу кідаюцца зайчаняты.*

**Заяц-пузаяц** *(радасна абнімае іх).* Дарагія!

**Зайка беленькі.** Тата!

**Зайка шэранькі.** Татачка! Мы будзем цяпер паслухмянымі.

**Заяц-пузаяц** *(да Мядзведзя).* Што з імі тут было?

**Мядзведзь.** Пасля раска-

(Працяг на стар. 10)



Асенція парадкі на спартыўнай пляцоўцы ў Стараляўкоўскай школе. Фота Я. Целушэцкага.




## ЖЫЎ У МЯНЕ ГОСЦЬ

Ці вы, дзеці, бачылі жывога вожыка? Калючага, з іголкамі? Як ён бегае вечарам у садочку ці перабягае дарогу? Не аднаго, думаю, бачылі.

А я вам раскажу, як у мяне быў вожык. Пяць дзён жыў у мяне.

Неяк выйшаў я з аўтобуса, каля свайго дома. Бачу, пад таполяю, што каля хаты, вожык ляжыць, ды яшчэ лапкамі ўверх. Падыйшоў і шафёр з аўтобуса са сваім сынком малым, каб паглядзець. Глядзім мы, а вожык устаць не можа, нібы і ступіў на ножкі, відаць, нехта ножкі яму перабіў. Бываюць жа нягоднікі!

Я палою фрэнча бяру вожыка і нясу дахаты.

**У кухні паклаў вожыка на падлогу і гляджу. А той крыху варушыць лапкамі, галавы не хавае, не скручваецца ў клубок, а прабуе ўставаць. Паклаў я каля яго кавалачак мяса і яблык, а сам пайшоў на панадворак касіць крапіву. Вяртаюся, а мяса няма. Яблык ляжыць у іншым месцы. Значыць, перакаціў.**

**— Ну, будзе жыць, — уцешыўся я. — Усё будзе добра.**

**Вожык меў каля 20 см даўжыні, цела пакрыта калючымі іголкамі белавата-бурага колеру. На лапках — доўгія кіпцюры на пяці пальчыках. Удзень вожык спіць, а ўначы праяўляе вялікую актыўнасць. На трэці дзень ноччу чую — тупае вожык па хаце: „Туп-туп-туп..." Устаю. Малако выпіта са сподачка і мяса няма.**

**З таго часу вожык ужо перастаў мяне баяцца. Як толькі я падаваў малако, дык клікаў: „Вожык! Ежа гатова!" І цешыўся, калі той прыбягаў.**

**Аднойчы ён не прыйшоў есці. „Схаваўся недзе", — падумаў я. Заглядаў усюды — не знайшоў. Уцёк. Аж не. Знайшоў яго ў вялікім кашу на шкляную бутлю. Знайшоў ён там нейкую дзірачку, улез і скруціўся ў клубочак. Я прабую яго ўзяць, каб занесці да малака, а ён на мяне:**

**— Фу-фу-фу!**

Аднак удалося мне яго паднесці да сподачка. Павячэраўшы, зноў трошкі разварушыўся, бегаў, а я за ім назіраў. Я першы раз так блізка бачыў вожыка. Які ён хітры і вясёлы! І мяне не баіцца. Купкі не зробіць абы-дзе, а хаваецца заўсёды ў адно месца.

На пяты дзень занёс я яго туды, дзе знайшоў. Бо ён жа, напэўна, мае сваю маму і свайго тату, якія па ім сумуюць. Паклаў я яго пад тую таполю на траву. Вожык панюхаў паветра, фукнуў пару разоў і пабег пад клуню, дзе, мабыць, жыла яго сям'я.

**Андрэй Гаўрылюк**

Уладзімір Ліпскі

# СПОВЕДЗЬ ШПУНДЗІКА

**(5-ы ўрывак з аповесці)**

Другі дзень чытаю „Пісьмы да сына“ Чэстэрфілда. Разумны англічанін жыў дзвесце гадоў назад. Як я зайздрошчу яго сыну. Ён жа амаль штодня атрымліваў ад бацькі такія лісты:

„Мілы мой хлопчык!

Я спадзяюся і веру, што ты будзеш не толькі маёй уцехай у старасці, але і маім гонарам, і я ўпэўнены, што стану памочнікам, сябрам і настаўнікам твайго юнацтва. Даверся мне.

... Уперадзе ў цябе багата часу, але цяпер ты знаходзішся ў такім перыядзе жыцця, калі адна праведзеная з карысцю гадзіна можа каштаваць больш дваццаці чатырох гадзін наступнага перыяду...“

Хораша пісаў свайму сыну мудрэц Чэстэрфілд. У яго пісьмах — адкрытасць душы, не павучанне, а сапраўдная вучоба.

„Асалода — гэта той рыф, аб які разбіваецца большасць маладых людзей. Не думай, што я збіраюся асуджаць асалоду. Не, я, насупраць, хачу звярнуць тваю ўвагу і рэкамендаваць яе табе, як сапраўдны эпікурэец. Я жадаю табе, каб ты чарпнуў яе цалкам, і мая адзіная мэта — зрабіць так, каб яна цябе не завяла ў зман.“

Адкладваю кніжку на гэтым пісьме, заплюшчваю вочы. Мілая мая Марынка, дзе ты цяпер, чым займаешся, пра што думаеш?..

З ложка падымае мяне тэлефонны званок.

— Сынок, ну як ты? — непакоілася мама.

— Нармальна.

— Ці не галодны?

— Не.

— А чым займаешся?

— Чытаю.

— Ну то й добра. Не сумуй толькі.

От і пагаварылі з мамай. Цяпер яна будзе спакойная. А я?

Расказаць бы ёй пра Марынку. Ад здзіўлення адняло б мову. Маці ўсё яшчэ думае, што я магу самастойна спраўляцца толькі з лыжкай. Зноў бяруся за Чэстэрфілда.

„Ідзі за сваёй мэтай настойліва і нястомна. І няхай усялякая новая цяжкасць не толькі не пазбавіць цябе мужнасці, але, наадварот, яшчэ болей натхніць. Чалавеку настойліваму вельмі багата чаго ўдаецца...“

Малайчына, Чэстэрфілд! І я так буду дзейнічаць у сваім жыцці. А разумееш, Чэстэрфілд, з якім настроем і настырнасцю рушыў бы я наперад, каб такое жывое павучанне меў ад свайго роднага бацькі? Ты не думай, граф, мой татка і мамка таксама разумныя людзі. Але ў іх няма часу на мяне. Ні ў кога яго няма. Такі наш касмічны век.

---

Віктар Швед

### ЧАМУ ЗАМЯРЗАЕ ЗІМОЮ ВАДА?

Настаўнік пытае:
— Скажы мне, Адам,
Чаму замярзае
Зімою вада?

— Скажы, мілы браце, —
Падказвае Стах, —
Каб дзеці катацца
Маглі на каньках!

### ЧАМУ НАШ КОТ З ВУСАМІ?

— Хто з нас старэйшы дома,
Ці я, ці наш каток?
— Ты за ката, вядома,
Старэйшы, мой сынок.

— Калі ж той коцік, мама,
Малодшы за мяне,
Чаму ж наш кот з вусамі,
А я дык яшчэ не?

### ЧАМУ НАПІСАЎ ТАК МАЛА?

Заглянуўшы ў сшытак Колю,
Матуля спытала:
— Чаму, сынку, сёння ў школе
Напісаў так мала?

— Як мог напісаць больш,
матка, —
Адказаў сыночак, —
Калі мяне на занятках
Ставілі ў куточак.

---




**(Працяг са стар. 9)**

жу. А цяпер склікай лясны народ. Ваўка судзіць будзем!

**Зайка беленькі.** Цяпер нікога не будзем баяцца.

**Мядзведзь.** Яшчэ ёсць у лесе Лісіца-хітрыца. Не забывайце.

**Заяц-пузаяц** *(гукае з ганка на ўсе бакі).* Гэ-э-эй! Лясны народ! Ідзі, ляці, скачы сюды, сюды, на палянку, да мяне, Зайца-пузайца! Ваўка злавілі! Судзіць яго будзем.

*З усіх бакоў пачуліся галасы птушак, лясных звяроў.*

**Зайка беленькі** *(прыслухоўваючыся).* Ідуць, ляцяць, скачуць.

**Зайка шэранькі** *(радасна).* Ваўка судзіць будзем!

*Зайчаняты бяруць Мядзведзя за лапы і пачынаюць з падскокамі кружыцца і спяваць.*

**Зайка беленькі і Зайка шэранькі.**
Ваўка мы не баімся
Мы скачам і пяём

**Зайка беленькі.**
А я Зайка беленькі,
Белы-белячок!

**Зайка шэранькі.**
А я Зайка шэранькі.
Шэры-шарачок!

*Зайка беленькі і Зайка шэранькі паўтараюць свае песенькі.*

Заслона.

---

# Слаўныя людзі Беларусі

## АГАФІЯ І ЎСЕВАЛАД

Яна была дачкою вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Манамаха, а ён — асірацелым княжычам з маленькага і беднага Давыд-Гарадоцкага княства, што знаходзілася на поўдні беларускіх земель. Уладарны князь Уладзімір моцна кахаў дачку за яе ласкавасць і сціпласць, а зяця — за яго сталасць і мужнасць. Захапіўшы Тураўскае княства, князь кіеўскі дараваў маладой пары яго паўночную частку з горадам Гародняй (сённяшнім Гродням).

Шчаслівыя маладыя прыбылі на Панямонне каля 1120 года і з цікаўнасцю сталі аглядаць свае ўладанні. Глядзець жа было на што, бо абшар быў аграмадны. Іхняе Гарадзенскае княства прасціралася ад ракі Мерачанкі на поўначы да Ясельды на поўдні і ад Шчары на ўсходзе да Бобры (гэтак тады называлася наша рака Бебжа). Хто гляне на карту, адразу заўважыць, што паўночная палова сённяшняй Беласточчыны і ўсходняя частка Сувальшчыны тады ўваходзілі ў Гарадзенскае княства.

Усевалад і Агафія не толькі цешыліся велічынёй свайго княства. Ім рабілася сумна, калі бачылі, што частка сёл і гарадоў абрабавана і спалена чужынцамі, шмат палёў і сенажацяў запушчаных, многа дарог занядбаных і рух на іх невялікі.

Княжацкая пара адразу і з вялікім запалам узялася за пабудову ўласнае дзяржавы. Усевалад умацоўваў краіну і клапаціўся пра яе развіццё. Ён цэлымі тыднямі, а то і месяцамі прападаў з воямі і гароднікамі (так тады называлі майстроў-будаўнікоў крэпасцяў-„гарадоў“), абараняў краіну ад чужынцаў, умацоўваў граніцы. Княгіня тым часам клапацілася пра пабудову велічнага княжацкага замка ў Гародні, абсталявання яго і ўпрыгожання, дбала пра адбудову старых і ўзвядзенне новых цэркваў па ўсім княстве, забяспечвала іх кнігамі, іконамі і іншымі патрэбнымі рэчамі, апекавалася рамеснікамі, купцамі, мастакамі. З асаблівай руплівасцю выхоўвала сваіх дзяцей, каб выраслі яны мудрымі, дбалымі і адважнымі княжычамі і княжнамі.

Цэлыя дзесяцігоддзі гэтак дружна працавалі Агафія і Усевалад. І старанні іхнія не пайшлі надарэмна. Паступова не толькі на граніцах, але і ў глыбіні княства выраслі моцныя крэпасці, уздоўж і ўпоперак краіны пралеглі гладкія гасцінцы для сваіх і замежных купцоў і іншых падарожных, усюды меншала лясоў і багнаў, а прыбывала добра дагледжаных палёў і сенажацяў. Па суседніх і далейшых краінах пайшлі чуткі пра спакойнае і заможнае жыццё ў Гарадзенскім княстве, і адусюль пачалі прыбываць і ахвотна сяліцца тут рамеснікі, сяляне, воі. Гарадзеншчына паўсюдна славілася сваім дабрабытам і мірным жыццём.

Многа бітваў выйграў князь Усевалад і разам з княгіняй Агафіяй не меней уклалі яны стараннаў, каб Гарадзеншчына стала моцнай дзяржавай. Калі яны памерлі, гэтую справу працягвалі іх адважныя і мудрыя сыны Барыс, Глеб і Мсціслаў.

**Мікола Гайдук**

---

## ПАЗНАЁМІМСЯ

— ✻ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Купрыянава, 9, кв. 106. Андрэй Моўчан. 10 клас.

— ✻ —

БССР, 220024, г. Мінск — 24, вул. Асаналіева, 5, кв. 78. Наташа Гарасцюк. 9 клас.

— ✻ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Волаха, 7, к. 1, кв. 1. Юля Шваброўская. 5 клас.

— ✻ —

БССР, 220035, г. Мінск — 35, вул. Заслаўская, 12, кв. 143. Каця Міхейчык. 7 клас.

— ✻ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. К. Лібкнехта, 96, кв. 4. Наташа Шырытон. 5 клас.

— ✻ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. К. Лібкнехта, 92, кв. 48. Лена Апраніч. 5 клас.

---

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А





Чым адрозніваюцца гэтыя малюнкі? Палічы адрозненні.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1 „Зорка“

